NIWA" TYGODNIK BIAŁORUSKI — CENA 60 gr.



# Ніва



№ 15 (59) БЕЛАСТОК, 14 КРАСАВІКА 1957 г. ГОД II

## Выдавецкі фонд

У папярэднім нумары звярнуліся мы да беларусаў і прыхільнікаў беларускай культуры з заклікам аб уплачванні добраахвотных грашовых складчын на пашырэнне беларускага друку ў Польшчы, на беларускі выдавецкі фонд.

Для далейшага развіцця беларускай культуры ў Польшчы, стварэнне выдавецкага фонду з'яўляецца жыццёвай неабходнасцю. На працягу дванаццаці год нічога ў гэтым напрамку не зроблена. Сорам бярэ, калі аб гэтым падумаеш.

Ці-ж і далей маем задаволіцца толькі «Нівай»? Выгаспадаравалі мы са скромнага бюджэту «Нівы» сродкі на дзіцячы дадатак, а на іншыя выдавецкія прадпрыемствы фактычна амаль нічога не застаецца.

А хочам як мага ляпей абяспечыць дзяцей у адпаведную літаратуру, хочам выдаць беларускі фальклор Беласточчыны, хочам выдаваць п'єскі для гурткоў мастацкай самадзейнасці. А ці-ж наша літаратурная спадчына не чакае на выдаўца? Ці-ж бедны мы талентамі, якія просяцца ў свет?

Кожны ведае ў якім трудным эканамічным становішчы, знаходзіцца наша дзяржава і ў сучасны момант лічыць на пашырэнне дзяржаўнай помачы не можам.

Не можам таксама абыякава адносіцца да нашых выдавецкіх спраў.

Ці-ж няма ў нас сваёй амбіцыі? Ці-ж будзем чакаць, каб нашыя культурныя аблогі ўзварушыў нейкі добры дзядзька?

Чакаць няма чаго, бо ніхто за нас рабіць не будзе. А праца гэта шпарчэй пойдзе, калі знойдзе зразуменне і падтрымку ўсяго грамадства, так беларускага, як і польскага, бо толькі супольнае зразуменне і падтрымка ўсяго грамадства можа прывесці да росквіту беларускай культуры ў Польшчы. Тварэнне беларускіх культурных вартасцей у Польшчы павінна стацца пунктам гонару аднолькава беларусаў і палякаў.

Няхай толькі кожны беларус у Польшчы зложыць на свой выдавецкі фонд нават па залатоўцы, то ўжо за гэты грошы можна распачаць паважнейшую выдавецкую працу. А ці-ж мала ў нас прыяцеляў, якія не адмовяцца ад помачы. Ці мала ў беларускім асяроддзі ўстаноў, якія пры адпаведнай інспірацыі з нашага боку маглі-б выдатна прычыніцца да ліквідацыі супольных культурных аблогаў.

Няхай толькі кожны, хто неабыякава адносіцца да беларускай культуры будзе прапагандыстам Беларускага выдавецкага фонду, тады не будзем сароміцца за сябе і за другіх.





## ЗАЯСНЕЛА

Заглянула сонца
У наша аконца:
— Расціце пад неба.
— Чаго нам шчэ трэба?

Ой трэба, каб болей
Каласілась поле,
Каб на сенажаці
Было што збіраці.

Засявайма шчасце,
Радасць засявайма;
Шчыра ў сваёй хаце
Вясну сустракайма.

А музыка іграе,
Аж сэрца займае,
А дзяўчына з хлопцам
Гарна так гуляе.

Ды давай ў прысядкі,
Давай без аглядкі.
Так за ясну долю,
Так за сваю волю.

Танцуюць, спяваюць,
Радасць услаўляюць.
Ах, каб даў Бог мілы,
Каб мы ўсе так жылі,

Усяго мелі ўдоваль.
За лепшую долю,
Вып'ема мёд чаркай,
Ды закусім скваркай.

УЛ. ГАЙДУК



### Ніл Гілевіч

Можна страціць руку,
Хлеб адною рабіць —
Для сябе, для дзяцей, для бацькоў, для Радзімы;
Можна з слыхам расстацца,
Не чуць, як бурліць,
Як гамоніць наўкол свет вясёлы і дзіўны;

Можна страціць свой зрок,
Страціць сонца навек,
Цёмнай ноччу сябе назаўсёды ахутаць,
І ўсё-ж не лічыць, што ты — горшы з калек,
Што жыццё для цябе —
Не жыццё, а пакута.

Пра багацце няварта бадай і казаць.
Можна страціць усё, што нажыць давялося,
Можна ўсё да апошняй драбніцы аддаць
І яшчэ ўсміхнуцца свавольнаму лёсу.

Аднаго ў жыцці нельга страціць — сяброў,
Нельга страціць ніколі іх рук, іх апоры,
Іхніх сэрцаў адкрытых,
Надзейных іх слоў,
Тых сяброў, што з табою і ў шчасці і ў горы...

Я і дня жыць сабою адным не хачу,
Не хачу быць няшчасным!
А быць такім — значыць:
Вушы чуйныя мець, ды сябе толькі чуць,
Вочы зоркія мець, ды сябе толькі бачыць.

ШТОТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА



# ЦІШКА ГАРТНЫ



*Цішка Гартны*

На Случчыне, у старадаўнім мястэчку Капылі, на вуліцы Карла Маркса 39, стаіць на пагорку пахілая сялянская хата. Тут 23 кастрычніка 1887 года (ст. ст.) нарадзіўся выдатны беларускі пісьменнік і вядомы грамадскі дзеяч Цішка Гартны (Змітро Тодаравіч Жылуновіч).

Бацька зямлі не меў, хадзіў у сезонныя заработкі, найбольш працаваў грабаром; маці ткала палатно і абрусы для местачковых багацеяў. Змалку, яшчэ з дзіцячых год, Гартнаму прышлося ўпрэгчыся ў працу і клопаты аб куску хлеба: улетку ён пасвіў каровы, а ўзімку вучыўся ў «дарэктара». У сваіх успамінах пра гэты час ён пісаў: «Помню ў святы, калі бацька і маці заступалі мяне пры статку, я хадзіў на базарную плошчу, дзе з'язджаліся людзі з розных вёсак, сачыў за якім-небудзь семінарыстам, які прамільгаў перад маімі вачыма, і я думаў: няхай-бы якое-небудзь вучылішча адчынілі ў Капылі!». Мары яго спраўдзіліся, у 1902 г., у мястэчку адкрылася двухкласнае вучылішча, і Гартны, не пакідаючы пастухоўскага «рамясла», паступае ў школу. Тут ён знаёміцца з рускай класічнай літаратурай, асабліва вялікае ўражанне на яго зрабілі творы Някрасава.

Рана ўключаецца Гартны ў грамадскае жыццё. Яшчэ ў 1904 г. ён трапляе на мітынг Капыльскай соцыял-дэмакратычнай арганізацыі, які адбыўся ў аколіцах мястэчка, а праз год прымае актыўны ўдзел у дэманстрацыі жыхароў Капыля. Вясною 1906 года пісьменнік уваходзіць у склад Капыльскай арганізацыі РСДРП і ўключаецца ў рэвалюцыйную барацьбу. У гэтым-жа годзе ён спрабуе паступіць у Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю, а пасля ў Мар'іна-Горацкую сельскагаспадарчую школу, але як чалавека «неблаганадзейнага» яго не прынялі, хоць экзамены здаваў паспяхова.

Прышлося ісці працаваць у гарбарную майстэрню, гнуць спіну над шкурай. З восені 1909 г. па 1912 г. у пошуках работы вандраваў па Беларусі, Літве і Латвіі, працаваў у гарбарнях Вільні, Дзвінска, Рыгі, Смаргоні, Магілёва, Вількаміра.

Літаратурную працу Гартны пачаў на рускай мове. Першыя вершы, напісаныя сумесна з земляком А. Красуцкім, не вызначаліся ні арыгінальнасцю, ні майстэрствам. Былі творы і аб родным мястэчку:

*Капыль горад небальшой,*
*Слава аб ім громка,*
*Разнеслася па ўсім свеце,*
*А дзяржыцца тонка...*

Спробы надрукаваць першые вершы ў «Киевских откликах» поспеху не мелі. Неўзабаве Гартны знаёміцца з беларускай газетай «Наша ніва». «Прачытаныя ў ёй вершы мігам абудзілі ва мне цягу да пісання пабеларуску», — пісаў пасля пісменнік у аўтабіяграфіі. 4 студзеня 1908 года на старонках «Нашай нівы» з'яўляецца першы допіс Гартнага, а праз год верш «Бяздольны», прысвечаны Я. Купалу.

У 1913 годзе Гартны вяртаецца на радзіму, актыўна супрацоўнічае ў «Нашай ніве», выдае ў Капылі рукапісны часопіс «Голас нізу» і газету «Вольная думка», выданне якіх станоўча ацэньваў М. Горкі, арганізоўвае збор сродкаў у фонд большэвіцкай «Праўды», піша петыцыю ад імя сялян у соцыял - дэмакратычную фракцыю думы.

У хуткім часе пісьменнік трапляе ў Пецербург, дзе працуе на заводзе «Вулкан» Тут ён становіцца карэспандэнтам «Праўды», сябрам кніжнага таварыства «Знание», выдае свой першы зборнік вершаў «Песні». Пасля пераходзіць на працу ў выдавецтва «Новый человек», пачынае пісаць раман «Сокі цаліны», а ў 1916 г. выдае газету «Дзянніца».

Кастрычніцкую рэвалюцыю Гартны сустрэў з радасцю, ён працуе спачатку ў Беларускім нацыянальным камісарыяце ў Маскве, чытае курс лекцый па беларускай літаратуры ў Беларускім народным універсітэце, рэдагуе «Дзянніцу».

У кастрычніку 1918 г. Цішка Гартны ўступае ў Комуністычную партыю, а пасля абвяшчэння Беларусі савецкай рэспублікай ён — старшыня Беларускага рэвалюцыйнага ўрада. Пасля пісьменнік плённую літаратурную працу сумяшчаў з адказнай грамадскай дзейнасцю: быў рэдактарам часопіса «Полымя», займаў адказныя пасады ў выдавецтве, Народным камісарыяце асветы, Галоўмастацтве, быў акадэмікам Акадэміі навук БССР.

Многа і актыўна працаваў Гартны ў галіне мастацкай літаратуры. Выходзяць новыя зборнікі вершаў «Песні працы і змагання», «Урачыстасць», зборнікі апавяданняў «Трэскі на хвалях», «Прысады», «Гоман зарніц», раманы «Сокі цаліны» і «Перагуды», драматычныя творы «Хвалі жыцця», «Сацыялістка» і інш. кнігі нарысаў і крытычных артыкулаў. Пісьменнік вельмі жыва адклікаўся на надзённыя пытанні грамадскага жыцця, пісаў пра рэвалюцыйнае мінулае, навінкі літаратуры, выступаў па пытаннях асветы і культуры.

У бурлівай і шматграннай творчай дзейнасці Цішкі Гартнага былі часам памылковыя сцверджанні, нацыяналістычныя зрывы, але не гэта вызначала яго вобл ік як пісьменніка і грамадскага дзеяча. Таму зараз вельмі крыўдна і балюча, што пісьменнік-комуніст, шчыры совецкі патрыёт, які ўсю сваю энергію і вострае пяро публіцыста і вучонага аддаваў развіццю беларускай нацыянальнай культуры, быў незаслужана выкраслены з літаратуры і гісторыі дзе яго добрае імя фігуравала з рознымі ярлыкамі.

Памёр пісьменнік 11 красавіка 1937 г.

*

Цішка Гартны пачаў творчую дзейнасць, калі ў беларускай літаратуры ўжо гучэлі магутныя галасы Янкі Купалы і Якуба Коласа. Паэзія выдатных песняроў аказала значны ўплыў на маладога паэта, дапамагала фармаваць светапогляд і эстэтычныя прынцыпы. Ідучы дарогаю Купалы і Коласа ў рэчышчы рэвалюцыйна-дэмакратычнай плыні, Гартны значна ўзбагачае тэматыку беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Побач з вобразам селяніна ў лірыцы Гартнага з'яўляецца рабочы — смелы змагар і жыццерадасны рэвалюцыянер, які верыць у сілу народа і яго перамогу.

Гартны паэтызуе працу рабочага і рамесніка, паказвае, што ў працы куецца для «людзей шчасце і доля». Ствараючы вобразы гарбара, каваля, грабара за цяжкай працай ці паказваючы іх беспрацоўнымі, паэт услаўляе пафас барацьбы і жыцця, знаходзіць бадзёрыя і аптымістычныя заклікі, таму многія творы Гартнага — гэта велічны гімн працы, гімн чалавеку. Праўда, часам пафас барацьбы ўяўляецца, як нейкі стыхійны пратэст, бунтарства ўвогуле, не дарма яго лірычны герой так любіць непагадзь і бурную навальніцу:

*У буры, ў навальніцы,*
*У громе, ў бліскавіцы,*
*У сіберным гуле*
*Ветранае сілы,*
*У хваляванні мора,*
*У калыханні бора*
*Многае мне міла,*
*Многае мне блізка.*

Зборнік вершаў «Песні працы і змагання» і «Урачыстасць» — гэта далейшы рост паэта, узбагачэнне і пашырэнне тэматыкі. У гэтых кнігах знайшлі свой адбітак векапомныя дні Кастрычніка і змаганне з ворагамі, Гартны славіць заваёвы совецкай улады, паказвае новае жыццё, якое прышло ў горад і вёску.

У грамадзянскай лірыцы паэта побач з сапраўды арыгінальнымі і майстэрскімі трапляе многа твораў суха рытарычных і апісальніцкіх, не заўсёды яны вызначаліся багаццем формы разнастайнасцю выяўленчых сродкаў і музычнасцю верша. Але лепшае ў творчасці Гартнага — паэтызацыя працы рабочага, жывы водгук на падзеі сучаснасці, гімн роднай прыродзе, — з'яўляецца важным здабыткам беларускай паэзіі.

Вялікі ўклад унёс Цішка Гартны ў беларускую прозу. Яго пяру належыць вялікі раман «Сокі цаліны» — па сутнасці першы буйны твор нашай прозы.

У рамане Гартны паказаў жыццё і рэвалюцыйную барацьбу рабочага класа напярэдадні Кастрычніка. Рыгор Нязвычны — галоўны герой рамана, выхадзец з местачковага асяроддзя, які трапляе ў буйныя прамысловыя цэнтры, праходзіць вялікую школу рэвалюцыйнага гартавання і вырастае ў мужнага і гераічнага барацьбіта.

Вялікую цікавасць уяўляе раман «Сокі цаліны», асабліва першая частка «Бацькава воля», дзе створаны вельмі каларытныя малюнкі местачковага побыту, паказана жыццё кулацтва і бядняцкай часткі мястэчка. Многа тут яркіх вобразаў, запамінальных жанравых сцэн, жывых і трапных дэталей, багатая і сакавітая народным складам мова.

Разнастайнасцю тэматыкі вызначаюцца апавяданні пісьменніка, сабраныя ў зборніках «Трэскі на хвалях», «Прысады» і «Гоман зарніц». Гэта творы аб

*(Працяг на стар. 5)*

Цішка Гартны

# У НЯДЗЕЛЮ

(Урывак з рамана «Сокі цаліны»)

Назаўтра, нядзеляю, Зося прачнулася куды пазней чымсь буднімі днямі. Каня яшчэ з досвітку павёў пасвіць знарок наняты хлапец. Бацька адправіўся аглядзець жытні палетак; а маці таксама пашкадавала будзіць Зосю, дазволіўшы паспаць ёй датуль, пакуль яна не здаволіцца. «Хай сабе ўдостань паспіць», — разважала сама сабе Марта.

Але Марце будзіць дачкі не прышлося. Зосю абудзіў рык прыгнаных на ранкі кароў і прарэзлівыя гукі пастуховай трубы.

У сенцах было цёмна і прахладна. Праз маленькае, як валова вока, акенца ўліваўся з надворку пучок сонечных праменняў і залатою пухкаю стужкаю разгортваўся па зялёным пахучым плюшніку, які адбіваў сваім глянцам рэзвых зайчыкаў на сцяне.

Зося працерла рукою вочы, адгарнула назад і завязала косы ды саскочыла з ложка.

— Зося, Зоська! — пачула яна окліч мацеры, даносіўшыся з хаты. — Уставай, галубка, дзесятая гадзіна. Каровы прыгналі на ранкі.

— Ды я ўжо ўстала, я чую! — адгукнулася Зося і адчыніла сеняшнія дзверы.

Празрыстасць бліскучага сонца і яркая зелень дзярэў, палітая яго праменнем, асляпілі Зосіны прыспаныя вочы; яна ўдвойчае працёрла іх рукавом кашулі ды пачала глядзець то на зелень, то на сонца.

На вуліцы пачуўся крык дзяцей, перамешаны з нямоўчнымі піскамі пішчалак, зробленых з плюшніку. У чыстым сінім паветры вярцеліся матылькі, гулялі авадні і восы, а на дзярэўцах весела і захлёбіста вычырыквалі рэзвыя птушкі.

— Трэба адзявацца ды выходзіць на места, — падагнала сама сябе Зося і хутка павярнула ў хату...

А праз гадзіну не больш, яна ўжо паспела памыцца, нарадзіцца і выйсці на вуліцу.

З канца ў канец уся вуліца была запруджана людзьмі: бабы і мужыкі, дзяўчаты і хлопцы, падпаскі і дзеці, адзетыя па-нядзельнаму, прымытыя, ахаеныя, весела спяшылі ў бок рынку: ішлі, гаманілі, смяяліся, гутарылі.

Недалёка ад рынку, на левым баку вуліцы, калі ісці к месту, стаяла Рыгорава старэнькая з трыма трохшыбнымі акенцамі хата. Ідучы на рынак, Зося пайшла паўз самыя латы гародаў і прызбы хат. Калі яна параўнялася з Рыгораваю хатаю, то на момант спынілася і зазірнула ў акно; зазірнула і ёй паказалася, нібы сядзіць за сталом якісьці мужчына і чытае газету.

«Няўжо то Рыгор?» — блеснула ў яе галаве радаснае пытанне, і Зося памкнулася бліжэй падыйсці к акну, але раптам передумала; ёй паказалася не зусім ёмкім: вуліцаю праходзіла многа людзей, сваіх-жа аднавульцаў-суседзяў, якія ніколі нічога не прапусцяць, каб не папазорыць уволю, а потым, — а потым перамалоць на языку. З ёю не раз ужо гэта траплялася, і Зося рашыла стрымацца і ісці далей.

Прыйшоўшы на рынак — вялікі чатырохкантовы пляц, агароджаны кругом сцяною будынкаў, абсаджаных высокімі старымі бярэзінамі, ясенямі і клёнамі, Зося накіравалася да крам. Рынак кішэў людзьмі: усе лаўкі і ганкі былі, як мухамі, аблеплены імі. Між напікаваных вазоў таўклося процьма дзяўчат і хлопцаў, між якімі рэдкімі адзінкамі прыкідваліся чыноўнікі з бліщчастымі цэшкамі, вучні, вучыцелі і местачковыя інтэлігенты. Зосю «Мікалаішку» знали не толькі ўсе Сілцы — як яўрэі, так і мяшчане, а і многія дзецюкі з бліжэйшых к Сілцам вёсак, дробныя хвальбаркоў-




## Раней... сёння



— «У цябе хлопча ёсць шмат недахопаў, мабыць мала ты вучыўся, надта абмежаваныя твае веды, да працы ў горадзе не надаешся, дзеля таго пасылаем цябе на вёску працаваць...»



— «Здольны з цябе хлапчук, вучыўся ты многа, і як відаць маеш шырокія веды, і па сваёй прафесіі ты талковы, нам такіх трэба, дзеля таго пасылаем цябе на вёску працаваць...»

## Перадсвяточныя парады гаспадыням

Кожная гаспадыня ў апошнія дні перад святам мае па самыя вушы работы. У хаце непарадак, як-бы пры землятрасенні, а тут яшчэ муж круціцца і перашкаджае на кожным кроку.

Перад святам назіранне за мужам — гэта найважнейшая справа. Муж і кот ходзяць з аднолькавымі думкамі, як-бы што-небудзь сцягнуць. Так што, печанае і смажанае хавайце як найдалей ад іх. А яшчэ больш клопату перад самым святам — упільнаваць мужа каб не падвыпіў. Тут муж спрытнейшы за ката.

Напітак трэба неабходна прыхаваць у зацішны куток. А яшчэ лепш трымаць мужа ў каморцы, пад ключом, да самых свят.

Больш вопытныя гаспадыні заганяюць сваіх мужыкоў да працы, каб не мелі часу думаць пра выпіўку і закуску. Напрыклад, калі калодзеж на другім канцы вёскі — прымушайце мужа ваду насіць. Прынясе ваду, а вы падавайце яму наступныя пустыя вёдры, пакуль муж прынясе ізноў — вылівайце ваду за хату і гэтак да позняй ночы.

Калі надыйдзе свята — можна дазволіць мужу адзець новы касцюм, але чыстую бялізну неканешне, бо калі перап'ецца — то і так прыдзецца змяняць.

Рассаджваючы гасцей за сталом, пасадзіце мужа каля самай брыдкай жанчыны, а яшчэ лепш побач бабкі.

Памятайце, што застрахаваць вас могуць ад градабіцця, ад кражы, ад пажара, але ад здрады мужа ніхто вас не застрахуе.

Не дазваляйце мужу многа размаўляць пры гасцях. Калі ён схопіцца на красамоўства — назвіце яго гультаём, дурнем, чучалам, гэта выцвяражальна ўплывае, муж маментальна скрунецца, як вожык.

Зразумела, я спачуваю ўсім замужнім жанчынам. Цяжка падрыхтоўвацца да свята, за мужам слядзіць, да таго потым яшчэ гасцям дагаджаць. Нашчасце Вялікдзень толькі раз у год бывае.

*Дзядзька Лявонь*

## У судзе

Жонка падала ў суд мужыка за тое, што ён яе пабіў. Суддзя не могучы пагадзіць іх, засудзіў мужыка на два тыдні ў адседку. Пачуўшы гэта, муж адзываецца да жонкі:

— Дурная ты, баба, хто-ж цябе цяпер біць будзе, як мяне пасадзяць?

Жонка крыху падумаўшы, кажа да суддзі;

— Мо' даруйце яму, ці што, ваша выскароддзе.

## Разгаварыліся

Раз баба захварэла на вочы і пайшла да доктара. Той паглядзеў і кажа:

«Ничего бабушка, будет всё хорошо, только покупи себе новые очки».

Баба прыйшла дамоў і кажа: — Мусі ўжо нічога з маіх вачэй не будзе, бо казаў доктар: купі сабе, бабка, новыя вочкі, калі кішэнь не пустуе. А пагібель яго ведае, можа ён на кпіны гэтак сказаў, гэта-ж ніхто на свеце вачэй не прадае!

Ажно якраз сядзеў у хаце чалавек, што ў маскалёх служыў. Дык ён кажа: — гэта ён мусіць табе загадаў акуляры купіць?

### Падчас абеду

Жонка: Бачыш, якая з цябе свіння: сабе ўзяў вялікую рыбу, а мне пакінуў меншую.

Муж: А ты, як зрабіла-б?

Жонка: Я?!... А, то пэўна, што ўзяла-б меншую...

Муж: Ну, то чаго-ж ты хочаш, я-ж табе і пакінуў меншую.

### Аб чым марыць камінар



### Народныя пагаворкі

**Каб ажаніцца, даў-бы вала, каб разжаніцца — даў-бы два.**

**Пашлі дурня па рыбу, дык ён жаб наловіць.**

**„Божа памажы", а сам не ляжы.**

**Пад ляжачы камень і вада не бяжыць.**

## НАПРАЎКА

У 12 (56) нумары «Нівы» з 24 сакавіка 1957 г. мы змясцілі карціну «Каліноўскі сярод паўстанцаў», пад якой далі падпіс: «Нядаўна Гродзенскі абласны музей набыў карціну літоўскага мастака П. Сергіевіча «Каліноўскі сярод паўстанцаў».

Нашыя чытачы прыслалі свае заўвагі, што П. Сергіевіч — гэта не літоўскі мастак, а беларускі і закідаюць нам, што дапусціліся мы вялікай памылкі.

Рэдакцыя выясняе, што падпіс пад карціну як і самую карціну мы перадрукавалі з Мінскай «Звязды».

## Цёмная ночка




Цёмная ночка ды нявідная,
Галованька мая бедная.

Дзе-ж я буду ноч начаваці?
Дзе-ж я буду каня пасьці?

Пушчу каня на даліну,
А сам лягу, адпачыну.

Ішла дзеўка каліну ламаці,
Стала жаўнера прабуджаці:

— Устань, жаўнеру, прачухніся,
— Назад сябе агляніся.

— Ідзе войска ды ня малае,
— Вельмі яно свавольнае:

— Заб'юць цябе маладога,
— Вазьмуць каня варанога.



## Лікавая адгаданка

У 13-ці клетках гэтага марскога трызуба трэба змясціць лікі ад аднаго да трынаццаці, так каб сума ўсіх лікаў у кожным з трох вертыкальных радоў і ў адным гарызантальным давала адзін і той самы лік — 25.

Сярод чытачоў, якія да 1 мая прышлюць правільныя адгаданкі будзе разлясавана 10 кніжных узнагарод.

Адказы прысылайце толькі на аддзельных картачках, або на паштовай картцы і падавайце дакладны адрас, а таксама наклейвайце патрэбныя паштовыя маркі.

**Р.**

## Развязка адгаданкі з 10 нумара «Нівы»

1. Каб зрабіць з шасці запалак чатыры трохвугольнікі — складаем на плошчы трохвугольнік з трох запалак, а ў кожную з яго вяршынь ставім па адной запалцы і канцы іх злучаем разам. Каб яны не парассыпаліся — галоўкі запалак падпальваем, так што потым трымаюцца разам.
2. Другі пункт адгаданкі можна развязаць двума спосабамі.
3. Каб развязаць трэці пункт адгаданкі ёсць аж 6 спосабаў.

*

Кніжныя ўзнагароды атрымалі:

Кастусь Вязоўскі — Алексічы, Алесь Краўчынскі — Совіны Груд, Янка Кандрацюк — Бельск Падляскі, Мар'я Васілеўская — Войшкі — Бельскі павет, Уладзімір Вярбіцкі — Бельск-Падляскі, Алесь Баравік — Мора, Гайнаўскі павет, Алесь Сычэўскі — Бельск-Падляскі, Яўгіння Антанюк — Войшкі, Бельскі павет, Анатоль Данілецкі — Падляўкова, Бельскі павет, В Канстанчук — Беласток.

Узнагароды высылаем поштай.

## АГАФОН АБРОТКА Ў ВЕРБНІЦУ



*Каля луга на вярбе,*
*Пазбяраліся вераб'е...*
*Стаў Абротка, не іграе —*
*Вярба коцікі лускае...*



*Аглядаецца Абротка,*
*Дарогаю ідуць цёткі:*
*Вербы ў руках трымаюць,*
*Ды вясёла размаўляюць.*



*У царкву звон людзей склікае,*
*Дзісь нядзеля вербавая...*
*Дзень-дзелень, дзень-дзелень!*
*За тыдзень Вялікдзень...*



*Верба б'е не заб'е! —*
*Кожны мае ў галаве.*
*Жане з вярбой дзядзьку цётка,*
*Весяліцца наш абротка...*

Галоўны рэдактар ГЕОРГІ ВАЛКАВЫЦКІ

Орган Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы. Адрас рэдакцыі: гор. Беласток, вул. Маніфесту Ліпцовага 25, тэл. 25-89. Умовы падпіскі на 3 месяцы — 7 зл. 20 гр., 6 месяцаў — 14 зл. 40 гр., на год — 28 зл. 80 гр. Konto NBP I Oddz. Miejski Nr 102-7-161 Падпіску прымаюць усе паштовыя ўстановы, пісьманосцы.
Выдавецтва РСВ «Праса». Паліграфічнае прадпрыемства ў Беластоку. Т-10